

Валянціна Аксак нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы, што пад Нясвіжам. Скончыла гістарычны факультэт БДУ. Працуе ў рэдакцыі часопіса „Беларусь”.

Вершы друкаваліся ў беларускіх газетах і часопісах.

І ты, які не ўмее гаварыць,
І я, якая прамаўчаць баюся, -
Дух нашых словаў прымушаем жыць
У нашым неахрышчаным хаўрусе.

Паперть - площадь перед Храмом. Через эту площадь до алтарных ступенек — несколько десятков шагов. Стихи Валентины Аксак обращены к тем читателям, в чьей жизни Рождество и Пасха - не этнография в городской квартире, а врата, через которые вход на паперть и выход из Храма. Отсюда — единение земного и вечного даже в любовной лирике.

ISBN 5-340-00924-6

# 1

Шчаслівыя тыя, што тужаць, бо яны суцешацца.

Паводле Мацвея св. Евангелле, 5:4

## ПАЎЗ МОГІЛКІ МАЯ ДАРОГА

## МІНОР

Уздрыгнула скрыпка і цененька грае.
Маленькі музыка смычку давярае
Імпровізны рытм і адвольныя ноты.
Ледзь чутна струна адзавецца на дотык.
А потым зайграе наўмысна бадзёра,
Але *фа-мі-соль* павісае ў прасторы,
Раскатае *рэ* аглухае знянацку,
Іскрыстае *ля,* як разбітая цацка,
Кароценька дзынкнуўшы, ціха канае.
Смычок неслухмяны зноў струны кранае.
Світальнымі пташкамі гукі ўсплываюць,
Вясёлы напеў назаўжды пакідаюць.
Усцешна смычок праплывае па струнах,
І скрыпка музыкаву лашчыць натуру,
Спазнаўшы ў дзіцячай душы сугалоссе
Той песні, якая прыходзіць увосень.

## НА КАНЦЭРЦЕ

Так блізка роспачна лунала
Пакута страты і цярпення,
А храм чакаў уваскрашэння.

І ноч калі ўжо прэч сплывала,
А голас біўся пад скляпеннем
І вырываўся азарэннем,

Старая нема закрычала...
Дзіця заснула на каленях...

## АРГАНІСТКА

Разляцелася лёгкая хваля па кволенькіх
плечках.
Цёплай проймай агортвае тоненькі стан,
Да педаляў плыве велікодная дрогкаю
свечкай,
З мануалаў змывае прытоены зман.

Раптам рукі расцялі густыя разлівы паветра
І пагналі па трубах напорную плынь.
Здрыгануўся эфір, разбудзься ў хораме
нетры
І замерлі, чакаючы рэха з вышынь.

І сарваўся Пярун, і маланкамі высвеціў морак,
І грымоты рассеклі зняверыны храм,
І працяжна азваўся сівы перакопаны ўзгорак,
І патухлі агніскі чужынскіх рэклам.

Загайдаліся німбы пад пошум цяжкі
шматгалосся,
На павеках успыхнуў балесны прыжмур,
І высокі акорд развітальнаю пташкай
пранёсся,
І анёл адляцеў у ашчэраны мур.

Прытулілася лёгкая хваля да стомленых
плечкаў,
Ахінула сужылкі знямоганых рук,
Дагарэлі на хорах дрыготкія тонкія свечкі,
Толькі ў стрэхах Заддзвіння жыве яшчэ гук.

## БАБІНА ЛЕТА

Вуголле на клёнах гарыць, як і летась,
Шчыгульны шнурок маладзенькіх ялін
Прыціх, прывячаючы бабіна лета
Ля стромай шашы хуткабежных хвілін.

Ніякай адзнакі, нязвыклай пагляду, -
Прырода вядзе свой заўсёдны расклад,
Ва ўсіх яе дзеях таемнага ладу
Стае, як і сотні стагоддзяў назад.

Завучаным рухам пасланнікаў медных
Лаўлю і пускаю па дрогкай рацэ...
І раптам любімы пярсцёнак мой срэбны
Балюча адчую - на левай руцэ.

## ЦВІНТАР

Неба вясёлку згубіла і, стратаю
Марна шукаючы з кім падзяліцца,
Безліччу боскіх слязінак набраклае,
Цяжка прысела на даху бажніцы.

Гнуткае голле бяроз на падворышчы,
Даўна бязлюдным і гулкім да вусцішы,
Цёмныя хмары пагойдвае ў роспачы,
Што непарушныя віснуць, загуснуўшы.

Сцены муроў - у малюнках дальтоніка,
Густа аблітыя новымі фарбамі.
Вецер выгуквае з месца прамоўчка,
Казань яго - пра няўмерласць прыгонніка.

Змоглы дзядуля з бяззубымі граблямі
Да цвінтара пад'язджае на коніку,
Лісцем вазок напаўняе, як скарбамі.

* * *

„Добры вечар!” - скажы.
Прытуліся шчакою
Да рассыпаных нанач
Ільняных валасоў.
Моўчкі мне памажы,
Знішчы цёплай рукою
Тую шэрую немач,
Што салёнай расой
На павеях дрыжыць.

Як Вялікага дня,
Як вясновага неба,
Як гарачага хлеба
На нішчымным стале,
Ўсё прашу ў цябе я,
Ды без жаднай патрэбы
Гэты шчыры малебен
У бязверным жытле.

Ноч у вокнах смужыць.

* * *

И не проси у Бога ничего.

*А. Ахматава*

Такая ноч - чаканай госцяй,
І ўсцешна мне прымаць яе.
Ні ты, ні я, ні трэці хтосьці
Яе прыход не пераймe.

Мой цень услед за мной не ходзіць,
Душу ўжо носіць нейкі птах,
А цела просіць, даўна просіць
Спачыць пад ладанавы пах.

## ВАДОХРЫШЧА

Яшчэ не распялі,
Яшчэ адрачэнне
Не лесціць сумлення,
Не лашчыць душу.
Яшчэ ж у купелі
Святога хрышчэння
За наша збавенне
Мы ладзім імшу.
І крыжык чапляем,
І ўхвалу спяваем,
Вадою купельнай
Дубец паліваем.

Каб вырас на крыж.

* * *

Калядаванне
На краёх чужога свята,
І шанаванне
Чужых святынь стракатых.

Неперайманне
Ў вачох жыве зацята,
І на вяртанне
Гатуе стратну плату.

## ГРАМНІЦЫ Ў ВЕРХНІМ ГОРАДЗЕ

Заход пазначыў кропкамі званіцы
У вечаровым небе скрозь дымы.
Якія неадліжныя Грамніцы,
Хоць да Вялікадня без споведзі памры!

Гадзінай шарай люд тут камерцыйны -
На пляцы Волі сходная цана.
Іду па вуліцы Рэвалюцыйнай -
Дайсці да Храма трэба дацямна.

Тлум нарастае, змешвае натоўпы,
Хто не купіў, а хто паспеў прадаць.
І не відно асветленай дахоўкі,
Званы ўсё меней з цемрыва чуваць.

## ЗВЕСТАВАННЕ

Дзень пачынаўся досвіткам зіхоткім,
Згаданай казані жывым радком,
Наіўнай веры цеплячок дрыготкі
Запалымнеў няспраўджаным грахом.

І я пайшла задзірванелым шляхам
Да крыжавых пакінутых дарог,
Дзе клён даваў прытулак раннім птахам,
Дзе за капліцай хату Бог сцярог.

Ля сцен старых маленькаю нябогай
Падбелу сонейка надумала цвісці,
Вялізны цень на крыжавых дарогах -
Сівы і мудры крук сюды ляціць.

Згас далягляд за пракаветным месцам,
Грахоўнасць мроі выстыла ў грудзях...
Ноч пракінецца, і святым дасвеццем
Святая вестка пойдзе па людзях.

# ВЕРБНІЦА Ў ВАСІЛЕЎЦАХ[1]

Ужо засвяціліся кветкі падбелу
На жвірных краёх хуткаспелых кар’ераў -
Дзіўлюся на россыпы сонечных перлаў.
А ў дыме бяроз, цераз ноч загусцелым,
Зяленіва ўе над гняздоўем збуцвелым
Свой німб веснавы.

А горад ашчэрвае пашчу ўсё шырай,
І кружыцца доўга знячэўлены вырай
Над месцам, якое ўжо назвы не мае, -
Нашчадак паганскія косткі шпурляе
На вагі, дзе служыць адзінаю гірай Унучак яго.

Падмурак не кроплены светлай вадою,
І новы кар’ер заплывае травою,
І кветкі падбелу, як вогнікі продкаў,
Успыхнуць якраз нашай смерці на ўгодкі
Пад домам чужым.

[1] Вёска, якую нядаўна ўвабраў у сябе Наваполацк.

## ВЯЛІКІ ПОСТ

Ноч і ноч, ну а дня толькі трошкі.
Не паспею нат покуць прыбраць
І жабрацкія жадныя крошкі
Да крыхоткі з абруса сабраць,

І з каханым у кутняй цямрэчы
Вербны кужаль раўненька паслаць,
І адзіную ўсцеху галечы
Захінуць ад пустога стала.

Ой ты, зорка мая маладая,
Пасвяці, покуль любіцца мне,
Покуль роднага беднага краю
Любы мой не цураецца ў сне.

Бо наяве даўно ўжо адрокся
І мяне за дзівачку рачэ,
Што ўвячаю ў тугім шматгалоссі
Яго цвёрдае наскае „чэ”.

## ПЕРАД ВЯЛІКАДНЕМ

Панядзелак радзіўся на зломе
Нескаромнага шчырага тыдня.
У табой ашчасліўленым доме
Пост вялікі хрысціўся ў Вялікдзень.

Белым воблачкам раніца ззяла
У расчэсаных кудзерках жарых
І аўторак сабой падганяла,
Сераду вызваляла з цяжару.

І чацвер абмываўся блакітам
У купелі вачэй маіх поўных.
Ды вось пятніца нешта панікла,
Не спяшала выходзіць за поўняй.

Ля чаканай чырвонай суботы
Яна чорнаю быць не хацела.
Крутануў хтось цяжкім калаўротам -
На нядзелю аж пырскі ляцелі.

І сцякалі, як слёзы з распяцця,
Усім нядзелям забрудзіўшы твар...
Не пашыла я белае плацце
І ўжо ў чорным іду на цвінтар...

* * *

Чырвоны ходнік пасярод святлынь-пакою,
Ступлю па ім да зменлівага шчасця.
Адкуты мосенж на мае запясці,
А на яе - Хрыстовае прычасце.

Чырвоны ходнік пасярод святлынь-пакою,
Хадзіць па ім дазволена абраным.
Атрута змовы на маім каханні,
А на яе - Хрыстовае прызнанне.

Чырвоны ходнік пасярод святлынь-пакою
Лёг ад мяне і да яе памкнуўся.
Ад мае помсты болей не ратуйся,
І ад яе - даўно ўжо Бог злякнуўся.

# ТРЫПЦІХ РОСПРАЧЫ[1]

1

... ўсё аддаўшы другой
моўчкі йдзеш да мяне
і апошні дукат за душою
так нясеш
што ад злосці памрэ
самы першы паяц пры дварэ
той
з паўнюткай заўсёдна машною
і бадзяк у чаканні запою
ўвесь заняты сабой
твой праход не міне
спешна медзь з рызманоў сабярэ
парушынкі крысом абатрэ
і падасць
цешся
Госпад з табою...

2

...ты прыйшоў
галава
як пабітае вогнішча
шнары пальцаў даўгіх
незацягнутых швоў
невыноснага болю відовішча
у каленях маіх
тушыш рэшту вуглёў
і шукаеш
ад попелу сховішча...

[1] Задаўненая спрэчка; непераадольная супярэчнасць.

## 3

... з эфіру народжаны цень
то сябра ў няўдалым паходзе
ён спрытна зашморгвае дзень
што ў вокнах тваіх узыходзіць
пагнутую кварту бярэ
і трунак чадлівы гатуе
і кожнае ночы цяпер
мой ложак надзейна вартуе...

## ДАРУНКІ

Знаходжу ў куфэрку вянчальны пярсцёнак,
Пад тоўшчай старызны ён зырка блішчэў.
Карункаў аблада на золаце тонкім -
Узоры забытыя мною ўжо ўшчэнт.

А побач мяшэчак, духмяны, як поплаў
У Янаву ноч, перад тым, як Пярун
Асвеціць яго незатоптаны покрыў
І спыніць паганскага полымя тлум.

Таемныя знакі дароў Віфлеемскіх
Здагадкаю будзяць знямелы пагляд.
Цяпер разумею той зацем нябескі,
Калі нам алтарны тварылі абрад.

Таму і прыкмет на Эдэмскую вечнасць
У куфры старым не знаходжу ніяк.
Відаць, што ўжо іх твая шчырая грэшнасць
Аднойчы з сабой прыхапіла няўзнак.

## ВІДМА

Спяшалася я ў храм, дзе ціша й суцяшэнне,
Дзе свеціцца паўзмрок таемнасцю імшы,
Дзе кожны мой прыход чакаеш ты
з трымценнем,
Як быццам без мяне навокал ні душы.

Спяшалася я ў храм, дзе некалі тварылі
Вачэй тваіх агні ў маіх вачах пажар,
Дзе побач з абразом бязгрэшніцы Марыі
Распусны мой партрэт у німбе многіх мар.

Спяшалася я ў храм, які ты ўзвёў, як прашчур,
На выспе ля ракі, сустрэцца каб са мной.
Спяшалася я ў храм па сцежцы пакручастай…
А што знайшла я, ў дом ступіўшы ўтульны
твой?..

* * *

Выйду ў ноч да чужой камяніцы,
Дзе вагеньчык прывабна дрыжыць
Не зачынены ў ёй аканіцы,
Хтосьці ўпотай не хоча там жыць.

На стале ў яго кніжка святая,
І ў куце ўкрыжаваны Хрыстос,
І дубовая лава пустая,
Толькі аркушаў скрэмзаных стос.

Кожнай ноччу іду да яго я.
Кожнай ноччу - ні кроку бліжэй.
Дзённай споведзі слова даўгое
Мне аб святасці ночы ілжэ.

Паўз могілкі мая дарога.
Штодня - заходам і світаннем.
Твой крыж вітаю адвітальна.
Даруй-даруй! Усё - ад Бога.

Рука ў жагнанні стыне строга
Над месцам нашага расстання.
А наўздагон - тваё маўчанне.
Не наракай! Усё - ад Бога.

Самотных дзён у нас нямнога.
Ужо ўзыходзіць знак астральны
Над месцам нашага спаткання.
Прымі-прымі! Мяне - ад Бога.

* * *

А мы - не злучоныя Богам.
А мы - толькі страсці саюз.
Знясільнага полымя многа,
Ды цісне ўсё болей той груз,
Які быў так лёгкі спачатку,
Бо ноч пераходзіла ў ноч.
Не мела абрысаў пячатка
Пацвердзіць нам шчасце. Суроч,
Суроч жа аблудных, сяброўка,
Ці вызначы ўцехі мяжу.
Згуляная ўся залатоўка,
Развейвае вецер імжу,
Што нашага полымя попел
Схавала ў рамонках густых.
Збяру я іх потым, а покуль
Чытаю Пісанне святых.

* * *

Травы, мне невядомае, нарвала.
Замест кветак сунула ў збанок.
Якіх ужо на нашае Купала
Ты не прынёс. І толькі вось званок
З якогасьці крайсвету ці сталіцы,
Мне гэта сёння не патрэбна знаць,
Калі ў высокай новенькай святліцы
Да рання цені шлюбныя стаяць.

* * *

Між намі Дзвіна, як віна.
Я з гэтага боку, ты - з тога.
І келіх другі для віна
Я стаўлю цяпер для другога.

Масты ўсе разбіў крыгалом.
Майстры ўсе паехалі з места.
А новы мой муж мне назло
Сцвярджае: яму тут зацесна,

І трэба на беразе тым
Нам новы прыстанак узводзіць.
Ён цэлую весну плыты
Майструе, мяне перавозіць.

## НОЧ

Вадаспады воску
Крута прыкіпелі
Да старой стальніцы
Ля чужой пасцелі.
Саламяны кошык
Шчодры на пігулкі,
Пакручасты почырк
Сыпле загагулькі
І ў сузор'е ніжа.
На бывалым небе
У сусвеце кніжак
Будзе яно трэба
Тому, хто стальніцу
Ды з майго пакою
Забярэ ў сталіцу
Вечнага спакою.

* * *

Збавіцелькай ноч наплывае,
Ахутвае стлумлены горад,
І першая зорка малая
Паглядвае госцяю гордай.

Штодня ў тваіх курчуся словах,
Балючых і хвосткіх, як пуга
Раз'юшаных хортніцкіх ловаў,
Што ў цела ўразаецца туга.

А ноччу ты гнеў свой на літасць
Змяняеш, загойваеш раны,
Каб заўтра, смакуючы гідкасць,
Гайнёю стравіць некахану.

Скарылася б гэткае долі,
Ды сведка ў вакно паглядае, -
Смяецца з ахвотнай няволі
Вячэрняя зорка малая.

* * *

Не стае сіл для новых пакут,
У прадонне зрываецца сэрца.
Мне з табою ўжо болей не стрэцца,
Не шукай мяне, любы мой, тут.

У прадонне зрываецца сэрца.
Мае шчасце аб іншае рвецца.
І катуе ў расстайным прызнанні

Біярытму глухое маўчанне.

Мне з табою ўжо болей не стрэцца,
Цябе іншай і лепшай дарую,
Хай яна ў ночы шлюбнай пачуе,

Як чужое імя ў прорву тую
З родных вуснаў маўкліва сарвецца.

Не шукай мяне, любы мой, тут,
Мне з табою ўжо болей не стрэцца,
У прадонне зрываецца сэрца,
Не стае сіл для новых пакут.

* * *

Не кажы мне пра хворае сэрца
І пра здраду сяброў не кажы.
Шкадавальніцай шчырай сагрэцца
Не хачу ля агніскаў чужых.

Міласэрнай сястрой не ўратую
Твае палкія мроі аб той,
Што над лісцем апалым чаруе,
Перадзім’я варушыць спакой.

Шпіталёвыя млосныя ночы
Не твары для мяне, не твары.
Паратункам з іх вабіць прарочым
Твой балкон на халодным двары.

* * *

Дзевяты паверх мой, дзевяты -
Для птушак якраз вышыня.
Фенолам і хлорам распяты,
Зраклася цябе цішыня.

Балкона гняздо пад страхою
Наўпроціў - праз лоджыю свет.
Прымерваю іх над сабою,
Ярчэйшы адкуль будзе след,-

Калі твой званок адвітальны
Пачую, як з Кіева звон...
Світальны палёт мой, світальны.
І твой - разняволены - стогн.

## АНТЫКВАР

З чужога дому шафу прывязяў
Нібы пасаг другой табе нявесты.
Мне падараваныя абразы
Ты зняў, каб кут для шафы быў няцесны.

Чырвоным дрэвам рэдкай пекнаты
І адмысловасцю старой работы
Зачараваны госці і наш сын:
На фортках шафы - Богшавы матыў,
І ў шкле святы з'яўляецца маркотны.

А я ў палоне гэтае красы
Імкнуся знікнуць з дому ўпотай.

## СТОМА

... вось і смецце ў парог,
ну і до, - супыніцца,
перасіліць настылы туман у вачах
і згадаць, пра к а г о
нецвярозая мроіць сталіца,
калі вечар вясёлы пад раніцу счах...

* * *

Твая натомленая ўсмешка
Цвярозіць мройны небасхіл.
Маё прызнанне - для цябе пацешка,
І хорам мой - твой стылы схім.

* * *

Тваe словы, як дыяменты
На зажвіраным дзірване,
Прывячаю за кампліменты
Зноў рассыпаныя - не мне.

## САМОТА

Нашто цяпер мне ночы морак
З вінам няпрошаных гасцей?..
І курчыцца пухнаты ўзгорак -
Нераспавітая пасцель.

* * *

Дзень у дзень каторы год
Побач будняў карагод.

Цягнем воз адной запрэжкай
Па разбітых вузкіх сцежках.

А як свята на прыпынках -
Ты з другой тады ў абдымках.

* * *

Ты - драпежная птушка, я знала,
Ты мяне за здабычу трымаў,
Але з крымскаю гэтай навалай
Замахнуўся ўжо нат на імя.
І з радкоў маіх, дрогкіх, як хвалі,
Што бяду маю ліжуць цяпер,
Сцяў імя маёй будучай славы -
Кінуў той, што зняславіць цябе.

## ЧОРНА-БЕЛЫЯ СНЫ

1

Сукенку купіла класічнага строю,
Стаю перад сынам з абновай такою.
- Цябе не люблю я ў чорнай сукенцы! -
Жорсткі прысуд прагучаў на прымерцы.

- Можа, мне белую, сынку, купіць?
- І ў белай таксама не буду любіць
- Чаму ж, мой маленькі? - ледзь слёзы адолела.

- Таму што ў вясёлкі няма гэтых колераў!

2

... схованка? Раптам... у кнізе пажоўклай
між пасівелых на зрэзе старонкаў
белы, з рудой па краёх аблямойкай,
нечы - табе - прастакутнік паштоўкі
зрок апякае. Бы з фальшам скарбонка.

Даўняе, здэцца. Усё адбалела.
Але збоч чорнага зноў пабялела.
Шахматнай дошкай мой дзень зашарэлы
лёг, як дыван. Я па ім - каралевай.

Зноўку - гульня. Прыніжэння пачатак.
Зноўку на вуснах - шкадобы пячатка.
Роўнасць фігур - на нічыйны канчатак.
Я - выбываю. Ды я - не здаюся.
Роўнасці рабства свайго - адкаснуся.
Чорнае з белым, - табе не скаруся.
У пройгрышы гэтым - сабой ганаруся.

„Да запатрэбы" - больш не патрэбна.
Схованка пашчу закрые ганебна.

## АДЧАЙ

З НАРОДНАГА

Ткала посцілку ў сонейкі
Ды не цёпла табе.

Акрывала ільдзінкамі -
Ды не золка табе.

Падкладала далонейкі -
Ды не мякка табе.

Усцілала каменейкам -
Ды не мулка табе.

Мёдам лесціла вусны -
Ды не слодыч табе.

Ліла чэмер атрутны -
Ды не горка табе.

Бегла рэчкай імкліваю -
Ды не ўсцешна табе.

Адлятала за выраем -
Ды не сумна табе.

Ой, якімі замовамі,
Чарадзействам якім
Тое ўбранне дубовае
Спапяліць мне на ім?..

## ЧАКАННЕ

З далёкае далі спадзеўка
У густа ружовых абновах
Пад раніцу вербнай нядзелькі
У форткі варотаў дубовых
Пагрукала ржавай падковай.

Трывогай успыхнулі свечкі,
А вочы - шалёнасцю юнай.
У дом мой забыты зарэчны
Развязкай зацягнутай спрэчкі
З'явілася з даўняга тлуму
Блудлівая дзеўка Фартуна.

## ВЯРТАННЕ

Забытыя дзверы застогнуць тужліва,
Знадворны прамень адхіснецца ў куток,
Ці мо захіне злонамыснае дзіва,
Якое не ўчула, як рыпнуў замок?

Рассыпаны стосік паперы наўкола,
І знакі на ёй - не маёю рукой.
Святло затрымціць абмяжованым колам,
І страшна ўваходзіць у спальны пакой.

## ЛІСТАПАД

Дождж змывае золата з бярэзін.
Вецер рве рубіны з арабін,
Металёвы храбусткі пярэдзім
Лье на крохкі восеньскі бурштын.

Нізка голле звісла з вербалозаў,
Слёзы-льдзінкі скідвае на дол,
І люляе ў мроіве марозным
Так даўно астылае гняздо.

* * *

*А. М.*

Я вусны не фарбую
Год пяць. А мо і болей
Той час, што не люблю я
Цябе ў гэтай ролі.

Тваіх прыхільніц палкіх
Не множу я шарэнгі,
Для вогнішча запалкі
Не крэслю я дарэмна.

Не склейваю прызнанні
Парыжскаю памадай,
Не трызню на світанні
Тваю былую здраду.

Ад вольніцы - усцеха
Год пяць. А то і болей
Табе я - толькі рэха
У гэтай новай ролі.

* * *

У снах тваіх ніколі не бывала.
І ведаю: не мроіцца табе
Ні слоў маіх вар’яцкая навала
Ні пасма неслухмяная на лбе.

Журботны позірк думы не вярэдзіць.
І гнуткі стан не стлумвае вачэй.
Чаму ж тады ідзеш па маім следзе.
І кожны раз хада твая шпарчэй,

Каб пераняць пагляд мой невясёлы
І тонкі стан рукой адной абняць,
Другой з ілба кудзерынку адняць
І слухаць, слухаць блытаныя словы?

* * *

Званкі твае крычалі: будзь багіняй,
Царыцай будзь паміж усіх жанчын!
А рукі выштукоўвалі рабыню
На ўзор антычнай бессаромнасці карцін.

У рабстве тым тваім я думала: загіну,
Ды раптам на шляху стаў іншы валадар.
З мяне ён вылепіў сапраўдную багіню,
Пры гэтым не забыў, што сам - і бог, і цар.

# ГРЭХ

Рабіна колер узяла ў маіх убораў,
Праз шчытны шэрань кроплямі цячэ
Да ног тваіх зайздросным агаворам
Пра патаемнасць стомленых вачэй.

У вашых словах збольшага ўсе праўда:
На белай ночы чырвань маіх сноў
Цвіце яскрава пасля столькіх здрадаў.
На кужаль цноту кінуўшы ізноў.

## ПАРТРЭТ

Са мною ноччу той партрэт,
Дзе на сябе ты не падобны.
Хлуслівым золатам багет
Блішчыць на рамцы самаробнай.

Вачэй чужых лаўлю пагляд,
Шукаю ў вуснах цень усмешкі.
І ўжо сапраўдны ты наўрад
Так добра знаеш сон мой грэшны.

## УСПАМІН

Абцасікі абшарпаных „цэбошкаў”,
Ім не паспець за глянцам „адзідас”,
Збягалі з дыямату у кіношку,
Дзе выпраменьваў жахі „Фантамас”.

Старая, старамодная сукенка
І новы, наймацнейшы капялюш,
Выглядваю сябе я праз вакенка -
Паўзе па шыбе здрадлівая туш.

* * *

Зацёртая джынсовая спадніца
І світарок, што покуль не малы.
Сягоння пахаджаю зноў царыцай
Наўкольнай інтэрнатаўскай шпаны.

Нацэленыя вочы на „Мантану”,
Раструшчана студэнцкае вакно.
А голас ломкі стрэліў за фантанам:
„Мамуль, падкінь пяцішнік на кіно!”

* * *

Закалыханы бураю лес
Спіць ля ціхае нашае вулкі...
Ты знікаеш апоўначы гулкай,
А пасцелена вузка і мулка,
І навылет мой ложак прамёрз.

Позні месяц гайсае па хаце.
Пераможна звініць цішыня.
І віруе да самага дня
Тваіх чорных вачэй глыбіня,
Прагных вуснаў да золку не страціць.

* * *

Ад раніцы такая яснасць,
Такі пяшчотны снегапад,
Што пазалеташняя страснасць
Шлях выбірае наўздагад.

Свежанароджаная сцежка -
Прамень у даўняе жытло,
І размарожаная ўсмешка -
Шафёрам хвацкім стоп-святло.

* * *

Зноў год прабег, як зморшчынка па твары,
Гляджуся, не свая, ў старым зацьмелым
люстры.
А за сцяною звон расстроенай гітары
І тупат ног, не па-начному шустрых.

Ты не прыйшоў са мною год закончыць
І павітаць пачатак новага злічэння.
Ну што ж... У сукні вабнай буду тут
выстрончваць
На пару з той - у люстраным свячэнні.

* * *

Я занадта позна пачынала,
Каб вось так па дробязях драбніцца,
Каб на сем ці восем раздзяліцца,
Я занадта позна пачынала.

Падрастаюць квола мае ўсходы
І ніяк жа цветам не ўбяруцца,
А суседскія палеткі жнуцца,
Падрастаюць квола мае ўсходы.

Пакраплю свянцонаю вадою,
Паяднаю ўсе свае драбніцы,
Падкладу пад корань ім жывіцу.
Каб усходы сталі каласіцца,
Пакраплю свянцонаю вадою.

І нальецца туга спелы жнівень
На маіх запозненых пасевах.
Шчэ пачуюць людзі мае спевы,
Шчэ і мой настане шчодры жнівень.

* * *

О як холадна жыць, Божа мілы!
Стынуць вусны, ляднее душа.
Дай мне сілы, мой Бог, дай мне сілы!
Хай загіну пазней, а спярша

Хоць крыхотку цяпла, хоць драбніцу,
Хоць іскрынку маленькую дай!
Буду вечна за гэта маліцца,
Буду гнаць ад сябе той адчай,

Што спавіў мяне даўняй вясною,
Патушыў несканчоны радок,
Выбіў з розуму нітак аснову,
Зблытаў думак вясёлкавы ўток.

І не тчэцца мая выбіранка -
Перакрэсліў узоры мароз.
Заірдзелі пахмурныя ранкі
Пераліваміі выстылых рос.

Божа мілы, не дай мне скарыцца
Халадэчы бясколерных сноў,
Памажы, навучы, як пазбыцца
Скамянелых пачуццяў і слоў!

* * *

Яшчэ зімы працяглае дыханне
Твае абдоймы лашчыць ледзяшом,
Але вяшчун душы маёй адхланне
Празумкаў маладзенькім капяжом.

* * *

Побач з добрымі - толькі няшчасце.
І мне добраю болей ня быць…
Ды свядома іду да прычасця
У тым храме, дзе дзверы ўсе насцеж
І так холадна голас дрыжыць,
Бо ў маім дараванні ты шчасце
Будзеш мець і з нялюбаю - жыць.

* * *

Напэўна, бяскрылае - лепшая доля.
Яна не ўяўляе смарагдавы колер
Наіўна бялюткім, як морскі туман
У шэрую восень расквецістым полем
Здалёк уявіўся пралётным буслам.

* * *

Ну вось, мой горад, мы з табой навекі.
Хоць я, прызнацца, не люблю цябе
За тое, што і ты, як я, калека
І цягнеш век таксама ў галыцьбе.

Надзея спела выбіцца да свету
Гадоў дваццатых, дзе шчэ дух жывы.
На тое мела даўнюю прыкмету -
Слядоў суквет ля Балтыкі ў жвіры.

Ды жнівень спеліць асаты на ўзмежку
Паміж тваім і нашым пачуццём...
Дзеля знявагі ці дзеля пацешкі
Па нашых сцежках - трэці след - асцём.

## КАЛЯДНІК

У царстве здрадлівых Марозаў
Танюткім прадзівам па шкле -
Карункавых метамарфозаў
Хітраспляценні на святле.

І толькі квет на падваконні -
У мёртвай шыбіне прасвет,
У залюстэркавым сутонні -
Жыцця зазімленага след.

## ПАЦЕРКІ З ПОЗНАНІ

Цябе няма. І, пэўна, што й не будзе.
Ёсць толькі знак - бурштынавы фантом.
І цьмяны цень па месце тлумным блудзіць,
Дзе сцежкі ўсе вядуць не ў Божы дом.

Цябе няма. І мой шчаслівы грудзень
Не перайшоў у стычэнь між Каляд.
Цябе няма, і для мяне не будзе
Неспадзяванкі ў калаўроце свят.

А горад твой спраўляе тэж Вялікдзень,
І дзеўчанё з істужкаю на лбе
Нясе табе пралежаў жмак вялізны,
Якраз такіх, як ты прыносіў мне.

Адчай, як грэх, замольваю штоночы,
А' Маці Божая дакорліва глядзіць,
Што я не чую, як ізноў хтось збочыў,
Каб мне буртшыну нітку падарыць.

## ЛЮСТЭРКА

Селязінавы май палыхнуў з-пад замжэлых
павекаў,-
Ах, люстэрка, няўжо ты праўдзівае мне?
І кудысьці падзелася тое дзяўчо-недарэка,
А вось гэтая панна ўсміхнецца вясне?

Пераспелым бурштынам ахутаны кутнікі
скроняў, -
Ах, люстэрка, няўжо ты праўдзівае мне?
І пакроўскае сонца апошнім напружаннем
промняў
З галавы ніткі люрыксу ўмомант ірве?

Маціцовы паўкружал у ценю прыўзнятай
галоўкі, -
Ах, люстэрка, няўжо ты праўдзівае мне?
І пагляд у вачох, як пад ранне на фэсце
пятроўскім,
Калі нават стары наш сусед не засне?

Разняволены стан з-пад няісных
гадоў-сумнадзеяў, -
Адхрышчуся ад іх, як ад жахаў у сне.
Амальгамай праменнай са словаў тваіх
цудадзейных
Акрываю люстэрка, праўдзівае мне.

# 3

Бо хто хоча душу сваю ўсцерагчы,
той згубіць яе, а хто згубіць душу сваю
дзеля Мяне, той знойдзе яе.

Паводле Мацвея
св. Евангелле, 16:25

## НЕ АДГУКАЙСЯ, ДУША, НА ПАДЗЕІ

* * *

Як па гойстрых нажох, пакацілася сонца
Па загойстраных ветрам сухіх старчакох
Частакольнай мяжы, што паўстала бясконца
У хваістых вярхох - сухавеяў шляхох.

Пакацілася сонца да самага донца
Каламутнага віру ў балотных хмызох,
Адыходнае слоўца благі суразмоўца
Шпурлянуў - скалынуў крутасхілу крысо.

Бескалёрнай пралескай па схіле ўтравелым,
Прамінулай усцехай раскошнай вясне,
Камячком безбалесным - у вір звар'яцелы
Паляцела душа. Каля сонца спачне.

## АСТРАЛЬНАСЦЬ

Даруй, мая радасць, мой свет - у вакенцы.
1 x 1 - галубніца мая.
Яшчэ да яе прымурованы сенцы -
От мудрае ўсё-ткі стварэнне Змяя.

Яна падарыла цябе мне і сына -
Такая раскоша жанчыне адной.
І вось прыпаўзла, і як я не прасіла:
1 x 1 - у мудрэйшай закон.

Сыночка - дзяржаве, цябе - выляжанцы,
А мне ў раўнавагу - шыкоўны палац.
Два крокі наперад - і скончаны шпацыр,
І зноў да лучыны - самоту скараць.

Даруй, мая радасць, мой свет - у вакенцы,
1 x 1 - мая радасць уся.
Табе прада мною запозна ўжо кленчыць,
Ужо мяне Ён сваёй жонкаю ўзяў.

## ВЫБАР

Когда о предательстве каркает ложь...
*З кампазіцыі рок-гурта "ДДТ"*

І храм Узвіжання, й Праабражэння Спаса
Маленькая, як лялечка, царква -
Сумоўнасцю душы і дум прыкрасай,
Калі пад сэрца ссыпана жарства.

І ўжо нідзе на свеце не знайду я
Ратунку ад прыдуманых багоў,
Бо нават Правялебную святую
Ты быў забыць з чужынкаю гатоў.

Не Полацкай, а Кіеўскай Сафіі
Пачуў званоў прынаднае біццё...
Я - у нябыт ці ў вечнасць - да стыхіі
Нябескіх чараў юнае Марыі,
Ты - у сягоння страснае быццё.

* * *

Шукаю свята ў тлумнай весялосці,
Шукаю ва ўрачыстай цішыні,
А спатыкаю ўсё не тое штосьці.
Спадманна размігцеліся агні.

## МЯЖА

Навошта? Навошта? Навошта
Жыхарцы юдолі каралі?
Навошта пазаўтра мне почаст,
Калі ўчора годнасць забралі?

Свабоднага племені й роду
Не быць мне дачкою і ўнучкай.
Да зводу. Да зводу. Да зводу.

І як той завод не накручвай,
Не зрушыш іржавай спружыны,
Не зладзіш зламанай машыны.

Смяротную хвілю свабоды
Страчаю, як выйсця нагоду
З варункаў загнанай прыроды.

## АМНІСТЫЯ

*А. Л. Фурс*

Дзень астатні ўжо ў гэтай катоўні.
Заўтра радасна бразне засоўка.
І схавае ад варты насоўка
Погляд дзёрзкі, як бура, раптоўны.

Тры з паловаю тысячы ўсмешак
З'елі „верныя", хрумснуўшы смачна,
Але скача ў куце Вашым вершнік,
І Ваш Бог свой намер не зыначыў.

## НАДПІС
## НА КНІГУ ЗЕМЛЯКА

Згодна з нашай традыцыяй -
Пра адвечнае спеў.
Ні князёўнаў, ні рыцараў -
Толькі жалю пасеў.

Рыскі даўняе доблесці
Паміж слёз не відны.
Пераемнасць аповесці
Ад тугі да нуды.

ЧЫТАЮЧЫ
ЯНКУ КУПАЛУ

Божа мой, Божа, свет незварушны!
Сотню гадоў да сябе мы не рушым.
Сотню гадоў мы на самым пачатку.
Сотню гадоў не народ мы, а - статак.

## ЛЕМАНТАР
## ЯЗЭПА ЛЁСІКА

Лемантуе кніжка першая,
Што не чытана дзіцяці,
Што наіўным мілым вершам
Не гучала з вуснаў маці,
Што ляжыць на спецпаліцы
За „крамолу” і „нацдэмства”,
Бо хацела песняй ліцца,
Песняй вольнасці й братэрства.

## ТРЫ ВЕРШЫ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

1

Як Вам жывецца ў той Амерыцы?..
А ў нас паспела збажына,
Але пажаць ніхто не мерыцца,
А тых, хто сеяў тут, - няма.

Так і жывём, чаканнем поўныя,
Пра гаспадарскі марым серп,
Хоць песні жніўныя жалобныя,
Як і даўней, пяюць усе.

Засеяць Вам хапіла смеласці,
І жаць настала ўжо пара...
Ды да жытоў багатай спеласці
Спаўзае хмараю вараг.

2

Мне лёс паслаў таксама прагу рыфмаў,
Збалелым нервам свет сабе тварыць,
І двух сынкоў люляць пад рогат бітваў...
Не дай, Гасподзь, дарогу Вашу паўтарыць!

3

Ах, пані Наталля,
У Вашых дваццатых
Была б я, напэўна, якраз -
І жнейка, і пралля,
І сумная ткалля
Працяглых радкоў-перыфраз.

І мы б з Вамі разам
„Жалейку” чыталі,
Як віленскі гоман аціх,
І ўборыстым сказам
Пра долю адказы
Шукалі б у словах сваіх.

Ах, пані Наталля,
І сёння, і заўтра
Маё - не патрэбнае нам.
Русалле, Купалле,
Што свет заастральны.
І я вось - сучасніца Вам.

* * *

Падмянілі народу герояў
І нікому таго не сказалі.
І чытаем чужыя імёны
На сваіх пракаветных скрыжалях.

## ЧУЖЫНЦЫ

Застрэлілі памяць,
Як тую ваўчыцу на ўзлессі.
Пакінулі дзетак малых,
Ваўчанят,
Сірацін без пары.
І ніяк ім не ўцяміць,
Чаму гэта выюць
Ваўкі не па-воўчы
Дагэтуль на нашым двары.

* * *

Дрэва спалілі,
Пакінулі лісцік кляновы.
Залевы пабілі
Сужылкі спляценняў нервовых.

Неадчувальны
Да ветру і сцюжаў бясконцых.
Неўратавальны
Аднолькава ласкавым сонцам.

Лісцік распнуты
Вісіць на паўночным паўшар'і.
Звыклыя путы
Церпіць, як боскую кару,

Што не прыпомніў
Наступнікаў д'яблавай маткі,
Якія ў катоўні
Таўклі на мякіну крылаткі.

Нема трывае
І трызніць: на гэтым кладзішчы
Семка малая
Яшчэ прарасце з папялішча.

## СЛЯДЫ НА ГАРАДЗІШЧЫ

Рагнеды крок на свой не прымяраю,
і не таму, што родам не з князёў, -
- занадта дробнаю хадой ступаю,
у след яе зусім не патрапляю,
а мой раўняе непагадзь з гразёй.

## НЯВЕРА

І не ідал. І не крыж.
Суцяшэнне - не ў пакутах.
На бязгрэшнага ў нас - глыж.
І цвікі - для нераспнутых.

Пазычаю. Аддаю.
А сваё - не набываю.
І без сповед<br>зі стаю
Перад пеклам. Перад раем.

**ВЕРА**

І ты, які не ўмее гаварыць,
І я, якая прамаўчаць баюся,
Дух нашых словаў прымушаем жыць
У нашым неахрышчаным хаўрусе.

## СУСТРЭЧА [1]

На вуліцах Вільні вільнянкі пяюць
Гімны хвалебныя небу й Радзіме.
Дзетак убраных да пляцу вядуць,
Дзе ажылі дзецюкі Гедыміна.

Па вуліцах Вільні ліцвінкай іду,
Мроі нясу ад Сафійскага храма,
Стратную долю да пляцу вяду,
Панны Марылі і пана Адама.

Па вуліцах Вільні ліецца імша,
Вечнае слова ў жывым катэдрале.
Толькі хвіліна малая прайшла,
Як на стагоддзе, а можа, і далей

Лірніка Свіцязі ціхай душа
Зноў адляцела туды, дзе спявала.
Хоры збудзілі тутэйшы абшар -
Радуйся, Вільня! Наваградку слава!

На вуліцах Вільні раскоша святла,
Свечкі мігцяцца ў вачох стрункай Ганны.
Вітаўту, Летуве, Літве - хвала!
Божа Усявышні, ратуй апантаных,
Ростань і страты дай сілы стрываць!..

[1] У часе першага з'езду „Саюдзіса" Віленскі Катэдральны сабор вернуты вернікам. А да гэтага ў розных бакавых галерэях віселі тут партрэты Адама Міцкевіча і Марылі Верашчакі.

## ГОСЦЯ[1]

Гэтае „Г”, як разгневаны Госпад,
Сіняю бліскаўкай рэжа нутро.
Не гаспадыняй, а лішняю госцяй
Вільня страчае і ставіць таўро.

Дома ў гасцях - гэта так мне нязвыкла.
Горда ступаю, ды нікла іду,
І нават родныя словы ў малітве
Не зацямнілі той знак на бяду.

Шчырыя, смелыя, дзёрзкія людзі,
З гэтага дня вы заўжды грамадой
У белых кашулях з чырвоным на грудзях...
Мне паміж вамі ў блакітным - адной.

[1] У дэлегатаў - з чырвонай, гасцей - з блакітнай, прэсы - з зялёнай паласой на белым фоне былі мандаты на Устаноўчым з’ездзе БНФ „Адраджэнне”.

## СТРАТА

Вільня мая,
Мне адмоўлена стрэцца з табою.
Колькі будзе дажджоў,
Але з бруку ня змыюць яны
Тых слядоў,
Што ўпіліся ў тvае камяніскі,
Як хімічныя фарбы
У шчокі каханак былых
Майго сябра і мужа сяброўкі найпершай,
І шукальніка цноты тvае.

Вільня мая,
Утрапёна працягваю рукі
Да пагорка таго,
Ад каторага сцежка вядзе
Нацянькі
Да бацькоўскага ціхага дому,
Дзе ня буду ўжо жыць.

Аж пакуль не пакрыюцца ржою
Два старыя цвікі,
Помніць будуць калыскі вяроўку,
Што на бэльцы пазначыла лёс.

* * *

Не адгукайся, душа, на падзеі:
У дзеях - здабытчыкам жыць.
Мы з табой страты ашчадна падзелім.
Злічым, як кроплі ў дажджы,
Рэшту і ў схованцы ўкрыем надзейна.
Нашыя страты - хай з намі заўжды...

Не адгукайся, душа, на падзеі:
Ў дзеях - шчасліўчыкам жыць.
Нам з табой шчасце - святая нядзеля,
Покуль наўкола дрыжыць
Места, аблітае звону гудзеннем,
І спачывае груган на крыжы.

# КАЛЯДНАЯ РАНІЦА

Сонца сёння ізноў уздымаецца ўгору.
Пасылае пагляд да паўночных шырот,
Дзе так многа ўчынілася ўвосені гора,
Покуль людзі жылі без ягоных шчадрот.

Перабльталі там: дзе Эдэм, дзе Гамора.
Разгаўляліся ўсе ўсю піліпаўку спрэс.
Вочы долу нясьлі да вялікіх кантораў
І збаўленнем душы называлі прагрэс.

Кожнай ноччу Адам клікаў іншую Еваў;
А паслужлівы змей яблык новы даваў.
І чарга надышла да бязвіннае Дзевы.
Але тут херувім звеставанне падаў.

Поруч рукі ляглі, пальцаў дотык цнатлівы
Астудзіў п’яны шал, мройна ўлонне акрыў.
І забыты даўно медны воблік Ярылы
Асцярожна паплыў з-за далёкай гары.

Затрымцелі званы пад нясмелым ударам, -
Званаровай руцэ яшчэ сіл не стае.
Але з новым штуршком неўтаймоўным
пажарам
Залатое чало на паўсвету ўстае.

## БАЛАДА
## ПРА СТАРЫ ХУТАР

Вечаровае цяжкае сонца
У карміннай густой аблямоўцы,
Саступаючы ўладу сутонню,
Пакацілася з неба ў прадонне.

Фарбы дзіўнага дзікага саду
У чаромхавых гінуць прысадах,
Толькі золата ў верхніх галінах
Паміж лісця падвялага стыне.

Перасмяглыя зёлкі і краскі
Прагна п'юць хмелядайныя росы,
І галоўкі выпростваюць шчасна,
Пэўна, зорам удзячнасць узносяць.

Мне адной толькі ведамай сцежкай
Прабіваюся ў нетры глухія,
Дзе пад грушы разлапістай стрэшкай
Да мяне хтосьці голаў нахіліць.

І працягне мне рукі насустрач,
На якіх крамяністыя сонцы,
Як зарнічкі бурштыну ў скарбонцы,
Прамянеюць у змрокавай гушчы.

Дар прынадны з чужое далоні
Асцярожна бяру і хаваю...
Заіржалі, счакаўшыся, коні,
І вятрыска галіны матляе.

Азіраюся: пуста наўкола.
Ані коней, ні саду глухога,
Толькі месяц вядзе сваё кола
Над забытаю усімі дарогай.

## ПАСЛЯ КАНЦЭРТА ДАНЧЫКА
## У ПОЛАЦКУ

Сонца выплыла толькі на дзень
З-пад навіслых над горадам хмараў,
Спічакоў абяскрыжаны цень
Гайданууўся між дзвінскіх абшараў.

Загарэлася медзь купалоў,
Залацінкі заззялі ў лістоце,
І вясновае штосьці мне зноў
У прысадах вятрыска шапоча.

Тваім імем названы ласкавым
Хлопчык выбег да рэчкі русявы
Ладзіць новыя гульні-забавы,

Галасок свой ціхутка спрабуе
І ля хваляў Пагоню малюе.

# РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ

ПАВОДЛЕ ПАЛАНЕЗА М. АГІНСКАГА

Водсвет лагодных промняў згас.
Цямрэча звіла сіло.
Павевы ветру ў ім знямелі ўраз.
Туман рачны -
Прывід начны
На паплавох
Тугім сукном
Над копамі напнуўся.

Зоры трымценнем срэбных вей
Цямрэчы сіло знялі.
Мільёны сцежак нам Сусвет ілье.
Ад знічак тых
Да коп сівых
Збавення сцяг -
Эфірны шлях
Над намі нахінуўся.

Там, дзе апошні промень згас, -
Нябачных музыкаў хор
З далёкай далі кліча ў высі нас
Паплыць туды,
Дзе цень зямны
З нябесных гор
У вечны свет,
Як Херувім, памкнуўся.

# ЗМЕСТ

3. НЕ АДГУКАЙСЯ, ДУША, НА ПАДЗЕІ

Аксак В,

Цвінтар; Вершы. - Мн.: Маст. літ., 1992.
95 с. - (Першая кніга паэта).

ISBN 5-340-00924-6,

Аксак В. Паперть: Стихи.

Цвінтар — пляц перад Храмам. Цераз гэты пляц да алтарных прыступкаў — некалькі дзесяткаў крокаў... Вершы Валянціны Аксак звернутыя да тых чытачоў, у чыім жыцці Каляды й Вялікдзень — не этнаграфія ў гарадской кватэры, а дзве брамы, цераз якія ўваход на цвінтар і выхад з Храма. Адсюль — лучнасць зямнога й вечнага нават у любоўнай лірыцы.

*Литературно-художественное издание*

*АКСАК* ВАЛЕНТИНА ИВАНОВНА

Паперть

Стихи

Минск, издательство "Мастацкая літаратура"

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае* выданне

АКСАК ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА

Цвінтар

Вершы

Рэдактар Л. *В.* Дранько-Майсюк. Мастак *Г. Р. Малышаў.* Мастацкі рэдактар *А. М, Малышава.* Тэхнічны рэдактар Г, *П, Тарасевіч.* Карэктар *Л. П. Бялова,*

' ІБ М⁰ 3702. Здадзена ў набор 31.10.91. Падп да друку 18.05.92. Фармат 70x90 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура Тіде. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,51. Ум, фарб.-адб. 3,73. Ул.-выд. арк. 1,93.

Тыраж 1000 экз. Зак. 559. Цана I р. 20 к.

.Выдавецтва „Мастацкая літаратура" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня, 225320, Баранавічы, Савецкая, 80.